## Пад вакном у вастрозі.

Высока, высока ў вастрозі вакно,
Крэпка жалезам аббіто яно.
Глянеш за горад—і вочы гарацъ;
Ад далі шырокай іх трудна адняць.
І выказаць трудна, як воля міла.
Якая журба на душы залягла
Па вольнаму жыцьцю, па шыры палёў,
Па роднаму шуму зялёных лясоў...
Каб меў жэ я крыльля, свабодна-б ўзмахнуў
І поўнаю грудзьдзю-б я вольна ўздыхнуў
І там—на прасторы—душой сапачыў
І вольнаму жыцьцю-б я песьню злажыў!...
Ой, крэпкі рашоткі, а крыльлёў німа,
І сэрцэ мне давіць, як камень, турма.

Якуб Колас.

*Мінск.*

# Рады для гаспадароў.

### Аб пасевах.

Кажэ прыказка, што „восень работак восем“, а вясной і пагатоў таго. Да вясенных работ сельскаму гаспадару пара ужо ладзіцца. У № 10 „Н. Н.“ пісалося аб палепшэньні сенакосоў і аб гнаях, гэта бадай найважнэйшые справы у гаспадарцы, але угнаіўшы зямельку трэба яе і вырабіць добра і засеяць. А засеваць трэба старацца добрым зярном, „бо якое семя такі і прыплод“, казалі нашы прадзеды, а мы часта аб гэтым забываемся і сеем іншы раз абы толькі абкідаць поле, а з гэтаго малы толк. Зярно на насеньне трэба выбіраць як найбуйнейшае, як найлепшае і як найчысьцейшае, нехай яно сабе і даражэй абойдзецца, на гэта глядзець німа што, бо зярно у зямлю кладзеш і спадзеваешся прыплоду з яго, а які-ж можэ быць прыплод калі зярно будзе тошчае, худое, ведамо, што і прыплод будзе тошчы, худы. Гэто так сама як і з жывёлай. Калі, скажэм, целіцца у гаспадара худая, хворая карова, ніхто ня думае цёлку ці бычка з гэткай жывёлы пускаць на племя, то чаму ж мы робім іначэй з зярном? Ачышчаць зярно трэба добра, каб на сваім і так скупым палетку не засеваць замест збожжа рознай травы, бо травы і так лішне многа укаранілося на нашых палетках! Ня трэба браць на семя збожжа з магазыноў, бо ў магазынах часта бывае зярно пралежалае, пратухлае, або з малым клёкам. Лепей за ўсё на семя куп-

еднаньня дакладчык лічыў тое, што народ і пастыры гаворацъ не адной гутаркай і адзін аднаго не разумее. Вось сьв. Шаравскій і раіў сьв.-троіцкаму брацтву аддрукавацъ па украінску „*Миссіонерскій спутникъ*“, „*Народный календарь*“ і другіе кніжкі, а так сама дабівацца, каб у духоўных школах завялі калі не навучаньне некаторых навук па украінску, то хацябы навуку украінскай літэратуры, ды каб у нізшых школах усё незразумелае тлумачылі вучэнікам па украінску. Пасля дакладу, ведама, паднялася сперша цэлая бура. Сьв. Шаравскаго вінавацілі ў „сэпаратызме“, „мазэпінстве ‘ і т. д., але ў канцы, пасьля атказу дакладчыка, з'езд павінен быў прыстацъ на ўсё тое, чаго дамагаўся сьв. Шаравскі“.

Калі-ж брацтвы на Беларусі пакінуцъ вясьці сваю „палітыку“, і, за прыкладам украінскіх брацтв, займуцца тым, чым павінны займацца?

Г. Б.



# Перед дарогай.

Іх на доўга асудзілі,
Цяжка пакаралі;
Праз жыцьця нягоду з вёсак
Ў цёмны мур загналі,
Адарваўшы ад сямейкі
І ад мілых дзетак.
Гоняцъ ў катаргу пажылых,
Маладых кабетак.
І ні знаюцъ небаракі,
Бедные кабеты,
Куды доля іх загоніцъ,
Дзе іх пройдуцъ леты,
І ні знаюцъ, як іх стрене
Трудная дарога
Пад канвоем па этапах
У астрог з астрога.
На іх тварах смутак ўеўся,
Горе напісано:
За німа што жыцьцё знікло,
Ў гразь яго ўтаптано!
І задума чорнай ценьню
На твары іх ляжэ
Горэм цяжкім, горэм-горкім
Сэрцэе апераже.

Ўсё прапало для гаротных
Жыцьцё ў прах разбіто,
А прад доўгай іх дарогай
Ночка скрозь разліта.
І даўнейшае іх жыцьце
Ў думках пранясецца,
А ад гэтых думак серцэ
Жалем скалыхнецца.
Ўстане вёска перад імі,
Хаткі дарагіе,
Ўсе куточкі, дзе прабеглі
Годы маладые;
Ўспомняцъ родных сваіх, кроўных,
Блізкіх і далёкіх.
Ці успомняцъ іх там, дома,
Бедных, адзінокіх?
Часам хто з іх песьню жалю
Ціха пачынае;
Горкім горэм песьня гэта
Серцэ спавівае.
«Я памру»,—адна сьпевае:
«Мяне пахаваюцъ
«Як папало, ў чужым цолі
«Труп мой закапаюцъ;

«Знаць ня будзе ніхто з родных,
«Гдзе мой прах струхлее».—
Горкім жалем, сьлёзным смуткам
Гэта песьня вее.

Ох, як многа гэтых песень
Па Русі пяецца!
Колькі сілы, колькі жыцьця
Па астрогах б'ецца!..

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

*Мінск.*

**Якуб Колас.**

# Галоднай вясной.

На дварэ сцямнело. Халодны вецер выў, гудзеў і сьвістаў на ўселякіе лады ў коміне, па шчэлінах старэнькай хаткі; біўся ў маленькіе зачарнеўшые ваконцы і дыхаў холадам па хаці. Скрыганулі дзьверы і Ігнаціха, нясучы ахапак гнілога, тоненькаго гальля і крыху бярозавых вітак с плоту, ўвайшла ў хату.

Кінуўшы гальлё каля прыпечка, стала атрасаць, прыліпшые да атопкаў, балота і сьнег.

— „Што ляскаеш! каб ты зубамі ляскала!"—адазвалася с печы старая Юрчыха, Ігнатава матка. Ігнаціха, нічога не атказаўшы, атрасла ногі і стала кідаць гальлё ў печ.

Старая памарматала ешчэ нешта, але, ні маючы прычэпкі да звадкі, замоўкла.

С печы сталі саскаківаць дзеці: шасьцёра—адно прэд адным і тоненькіе сіплые галаскі іх зліваліся як у адзін: „мама, мама, есьці!"

Есьці?! У беднай кабеціны толькі сьлёзы пасыпаліся з вачэй. Хлеба даўно ўжо і званьня не было. Узяла карзінку, дзе было крыху бульбы, вялічынёй па добрым гарэху, ўсыпала ў гаршчок і паставіла ў печ.

— „Што там Ігнат так доўга забавіўся?—раздумывала Ігнаціха. С самаго раньня павёз рэзаць сечку; кароўка галодная стаіць; німа чым і заціркі прысаліць.."

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ігнат, зрэзаўшы сечку, заехаў да Хайкі купіць солі. Там—у цёплай хаці, за доўгім сталом, застаўленым пляшкамі, паміж каторых валяўся белы, тоўста нарэзаны, хлеб, пілі і закусывалі знаёмые суседзі. Клікнулі і Ігната. З дому Ігнат выехаў нашча, а цяпер каторая пара! А тут чаркі, хлеб! Ды які хлеб? — сітніца! А ён і чорнаго—смаку забыўся. Падсеў Ігнат—на мінутку падсеў —пакуль жыдоўка солі адважыць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Поўнач ужо была нідалёка, калі, хістаючыся на нагах, Ігнат выйшоў ад Хайкі і ускуліўшыся на напханые сечкай мяхі, крануў лейцамі. Худы конік рушыў з мейсца і, памаленьку ступаючы, пацягнуўся да дому.

васлаўные лічаць больш блізкім усё расейскае. А ведама, што ў нашай старонцы ад вякоў ішло і ідзе змаганьне за ўласць, за культурнае панаваньне над намі, між расейцамі і палякамі. І вось, праз той раздзел беларусоў на дзьве часьці, тая сварка, тая ненавісць, якая ёсць між расейўамі і палякамі, пераносіцца ў беларускую вёску, падыймае ў ёй брата проці брата, беларуса-каталіка проці беларуса-праваслаўнаго...

Да чаго гэта можэ давясьці? Падобны прыклад бачылі мы у сэрбоў: там гэтак сама народ меў дзьве веры—праваслаўную і каталіцкую, так сама, як мы, быў раздзелен на дзьве часьці. І справа скончылася тым, што з аднаго суцэльнаго народу зрабіліся два і, хоць і дагэтуль гутарка у іх адна, хаця усё жыцьцё йдзе гэтак сама у абодвых, імя яны маюць не адно: гэта—*сэрбы і хорваты*.

Няўжо-ж і нас чэкае гэткі канец?

Проці такога ўсенароднаго нешчасьця мы павінны пакіраваць усе нашы сілы. Таго, што пішэ едзіная беларуская газэта, мало: патрэбно жывое слово, патрэбен жывы прыклад еднасьці і згоды між сынамі аднэй Маткі-Беларусі. Вось, усе сьведомые беларусы павінны ўзяцца за такую работу. Толькі ў еднасьці—сіла, і тую сілу прыдбаць можэм мы самі.

Гэта і ёсць наш доўг: трэба ня толькі *гаварыць* аб еднасьці ўсіх беларусоў, але *жыцьцём сваім* шырыць згоду і братнюю любоў у народзі. Каб-жэ зніштожыць раздзел, які робіцца між намі, да званьня, трэба звясьці самую прычыну раздзелу: трэба дайсьці таго, каб наша мова здабыла сабе належные правы у грамадзкім жыцьці, значыць, і у цэркві, і у касьцелі, каб праваслаўе і каталіцтво на Беларускай зямлі перэстало быць расейскім і польскім, а было беларускім. Толькі тады гэтые дзьве рэлігіі ня будуць дзяліць суцэльнаго народу.

Канчаючы гэты год і агледаючыся назад, мы бачым, што вось для гэтай справы зроблено найменш. Ня год быў дрэнны, ня ён „чагось нам не дадаў“, а мы самі спалі. Дык ніхай жэ гэта „Год Новы направе!“

Г. Б.

---

# На Куцьцю.

I.

На небі зоры ўжо мігцяць,
На полі срыбны сьнег іскрыцца;
На бел-сьвет дзівы выпраўляць
Пляцецца ночка-чараўніца.

Глуш абнялася с цішыной
І спавівае ўсё у чары,
Паўзуць і сеюць шорах свой
Старым парадкам цені-мары.

Вылазе с цемры бледны звод,
Глядзіць сьлiўнём на долы,горы,
І тут і там пускае ў ход
Свае нямые загаворы.

І тут і тамка свой прыгон
Распасьцірае царство ночы;
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.

II.

Заныло ўсё, замёрло ўсё,—
Ня сьпіць адвечнае замчышчэ:
Там пачынаецца жыцьцё
Ў вагнях старога папялішча.

Іскрыстым, блескатным сьвятлом
Заліты княжскіе сьвятліцы,
Дружына вольная кругом
Сталоў дубовых варушыцца.

Золататканы абрусы
З сталоў звісаюць дыванамі,
На абрусах чысьцей расы
Віно красуецца каўшамі.

Духі мінуўшчыны куцьцю
На старасьвецкі лад спраўляюць,
Даўно бываламу жыцьцю
Дары належные складаюць.

III

На беласьнежны на пасад
Усходзе князь, усходзе княжна;
За імі слуг пачэсны рад
Стаіць задумчыва, суважна.

Агні брылянтаў, як зарніц,
Зіяюць с княжэскай кароны,—
Краса бье с князеўных зраніц,
Як блеск маланак развуглёны.

Звярнулі вочы ўсе ў іх бок,
Прымоўклі гоманы дружыны,
Ўсіх званых з блізку і з далёк
Саколім вокам князь акінуў.

Бярэ коўш соладка віна,
Пье за дружыну маладую,
І княжна с князем пье да дна;
Князь рэч вядзе да ўсіх такую.

IV.

„Адзін, адзін раз толькі ў год
„Збірацца можэм з ласкі Рока,
„Каб лет іржавы карагод
„Зганяць з мінуўшчыны далёкай.

„Нас не кранулі косы зьмен:
„Цары мы ў дум жывых гэйнале,
„Хоць на падмурах гэтых сьцен
„Другіе наш пасад занялі.

„Багі другіе верх бяруць,
„Суды вядуць над нашым краем,
„Сьвяцільні-ж нашы не замруць
„Што ў сэрцах вольных разсьветляем.

„Прашу паклікаці ганцоў
„І мейсцэ даці ім па чэсьці,
„Ад нашых стоптаных капцоў
„Які нам прыносюць весьці?...

V.

Закончыў князь, махнуў рукой;
Уходзяць тры ганцы ў сьвятліцу,
Ідуць суважнаю ступой
І князю й княжне пакланіцца.—

А першы гэткі сьветлы быў,
Як небам сланные прамені:
Ў руцэ меў сьветач, што на зьдзіў
Усе усюдах зводзіў цені.

А быў другі і з ног і з рук,
Як гром з жывымі пярунамі:
Ў руцэ меў стрэл жалезных пук,
І лук стальны меў за плечамі.

А трэйці быў і раб, і цар,
І слаб, і дуж ва ўсякім дзеле,
Як вечнасць, молад быў і стар;
Меў гусьлі—на грудзях віселі.

VI.

І першы князю гэткі сказ
І княжне скажэ міласьцівай:
„Я абышоў іх тройчы раз
„І відзеў, што ешчэ ўсе жывы,
„А толькі ўсё той самы лад:
„З вачэй не зняты йшчэ павязкі,

„Ці йдуць у перад, ці назад,
„Відны сляды цямрычнай ласкі.

„А як ішоў між іх з сьвятлом,
„Яны пачулі, ах, пачулі:
„Сьляпым заморэные сном,
„Худые рукі ў высь цягнулі.

„За мною ўсьцяж, і тут, і там
„Іх вусны бледные шэпталі:
„Аддайце сонцэ нашэ нам!
„На што схавалі—расхваталі!“

VII.

Другі за першым князю сказ
І княжне скажэ міласьцівай:
„Я абышоў іх тройчы раз
„І відзеў, што яны ўсе жывы.

„А топчуць толькі ўсё той сьлед,
„Валочуць ёрмы за сабою;
„Ці ўбачуць корч, ці ўбачуць цьвет
„Аднэю жаляцца сьлязою.

„А як чапнуў стралой аб лук,
„Яны скрануліся ў прасонні,
„І столькі, столькі крэпкіх рук
„К маёй паціснулося броні.

„За мною ўсцяж і тут, і там
„Іх вусны бледные шэпталі:
„Аддайце славу нашу нам!
„На што схавалі-расхваталі?“

VIII.

І трэйці князю гэткі сказ
І княжне скажэ міласьцівай:
„Я абышоў іх тройчы раз
„І відзеў, што яны ўсе жывы.

„А толькі торг усё ідзе
„Над іх душою патаптанай,
„Яны, як цені, ў грамадзе
„Маўчаць і йдуць на пір паганы.

„А як я ўдарыў па струне,
„Заметушыліся, як пчолы,
„І на гарэ, і нізіне
„Мне падавалі голас кволы.

„За мною ўсьцяж, і тут, і там
„Іх вусны бледные шэпталі:
„Аддайце песьню нашу нам!
„Нашто схавалі—расхваталі?“

IX.

Сказаўшы так, маўчаць ганцы:
Маўчыць і князь крыху часіны,
І дасць адвет такі ў канцы
Ганцам на іхніе навіны:

„Ня ўмруць, ня ўмруць ужо яны,
„Раз хочуць сонца, славы, песьні;
„Забьюць ім зычные званы
„Прабудным звонам на прадвесьні.

„Сваей забранай старане,
„Скаванай мучаніцы-княжне,
„Ўзнясуць пасад на кургане
„На панаваньне недасяжне.

„На дзеле—кожны йшчэ слугой,
„У думках вольные ўжо людзі;
„Над сэрцэм іх, над іх душой
„Наш дух вітаці вечна будзе.

X.

„Вы другі верные, ганцы,
„Як летась, сёлета, на лета
„Ўсе пагранічные канцы
„Абходзьце зноў з маім прыветам:

„Гусьлямі, лукам і сьвятлом
„Будзіце, клічце і сьвяціце,
„І так спануйце іхнім сном,
„Каб сон іх счэз і ўсталі жыці.

„А пакуль поўнач не прыйшла.
„Вясьці бяседу будзем далей;
„Засядзце ўсе кругом стала,
„Хай зазьвініць віно ў крыштале

„А чарку першую ўзнясём
„За цень мінуўшчыны у сеці,
„Другой к цяпершчыне пральём,
„Праславім будучыну трэйцяй“.

XI.

Садзіцца княжна, князь, кругом
Садзіцца вольная дружына;
Шуміць бяседа за сталом,
Плыве часіна за часінай.

І разгараецца ясней
Паходня радасьці забытай,
І сьветазарнасьцей свaей
Вясёлкі сее самавіты.

Ямчэй нацягваецца лук,
Цэль разсекаюць агнестрэлы,
Дрыжыць паўціна і павук,
Дрыжыць прыблудак ачарнелы.

Ракочуць гусьлі звон-у звон,
На мір-сьвет розгалас нясецца,
Як мір-сьвет, коціцца разгон
І ў думцы казкай раздаецца.

XII.

Плыве шумліва, як рэка
Бяседа вольная такая,
А ўжо нявідзіма рука
На небе поўнач адзначае.

Залопаў крыльлямі пятух,—
І ціхне—ціхне ўсё ў замчышчы,
Замоўк разгул, агонь патух,
Старое згасло папялішчэ.

На пустку ўзбрыўшы, воўк завыў
Пуціну заяц перамерыў...
А быў тут хто, або ня быў,—
І так і гэтак мала веры.

І так і гэтак свой прыгон
Распасьцірае царство ночы:
Салодкі сон, магільны сон
Сьмяецца сьвету ўсяму ў вочы.

*Пецербург*, 14/XII, 1911 г.

**Янка Купала.**

# ПЕРЭД СЬВЯТАМ.

Зімовы дзень пагасаў. Спюдзёнае сонцэ хавалося за борам. Прашчальные косые прамені яго гарэлі крывавым агнём на засыпаных сьнегам стрэхах будынкоў, на белым дашчатым перэлазі і, пралезаючы праз дзьверы адчыненай клеці, адліваліся медзяна-чырвонымі плямамі на бярвённай сьцяне.

Марознае паветрэ было сухое і спакойнае. З верху, з лёгкіх пушыстых хмарак, сыпаліся рэдкіе крупінкі падобнай да манны шэрэшы.

— То якжэ, дзядька?...

Ужо ты павінен даць веры, што каб не нуда, не пайшоў бы да цябе прасіць,—казаў Андрэй, малады русавалосы селянін:— запраўды не пайшоў-бы; але схарчаваліся мы вельмі. Ужо аб нас з бабай німа што гаварыць, але дзеткі скігляць ня еўшы, вось што...

Сямён, валасны старшына, тоўсты, сярэдняго росту чэлавек, усыпаўшы з мешка у дзежку мукі, струсіў яго, павесіў на засек і узяўся у бокі.

— Я гэта, братка, і без цябе ведаю, бяз нуды да мяне ня ходзяць, асабліва радня,—насьмешліва згодзіўся ён. Толькі бытцым я такі багатыр, каб раздаваць сваё дабро уселякаму, хто спаткаецца? Ты думаеш, у мяне нет ведама якіе скарбы? Не, братка,—толькі тое, што бачыш; больш нічога німа.

Андрэй пры гэтых славах зірнуў на поўные збожжа засекі, апусьціў галаву і цяжка уздыхнуў.